# Захаванне нацыянальнай гістарычнай і культурнай спадчыны

## Вынікі падведзены

Ва ўрачыстых абставінах ў актавай зале БДПУ завяршыўся конкурс на лепшую беларускую вясковую школу, які праводзілі ТБШ і ТБМ. Прывітальныя словы сказалі ўдзельнікам свята прарэктар педуніверсітэта Быкадораў Юры і старшыня ТБМ Алег Трусаў. Акрамя таго прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, Менскага абласнога ўпраўлення адукацыі, фундатары, журналісты і грамадскасць горада.

Добрым аздабленнем урачыстасці паслужылі мастацкія выступленні двух універсітэцкіх фальклёрных калектываў "Жавароначкі" і "РЭЙ". Усе 50 удзельнікаў атрымалі дыпломы і памятныя падарункі. Уладальнікі дыпломаў I ступені атрымалі музычны цэнтр, фотаапараты, відэакамеры.

Было выказана пажаданне падобныя конкурсы праводзіць і далей. Сапраўднае свята беларускасці надоўга запомніцца яго ўдзельнікам. Ніжэй змяшчаем спіс школаў з адзнакай атрымання дыплома пэўнай ступені.

*Алесь Лозка, прэзідэнт ТБШ.*

### Вынікі конкурсу на лепшую беларускую вясковую школу

| № п.п. | Назва школы, раён | Ступень дыплома |
|---|---|---|
| | **Менская вобласць** | |
| 1. | Мётчанскі "Школа-сад" Барысаўскага раёна | 1 |
| 2. | Ільянская СШ Вілейскага раёна | 3 |
| 3. | Рускасельская пачатк.школа Вілейскага раёна | 2 |
| 4. | Морацкая СШ Клецкага раёна | 2 |
| 5. | Лебедзеўская СШ Маладзечанскага раёна | 3 |
| 6. | Сырмежская СШ Мядзельскага раёна | 3 |
| 7. | Талькаўская СШ Пухавіцкага раёна | 2 |
| 8. | Замосцкая СШ Слуцкага раёна | 3 |
| 9. | Лучнікаўская БШ Слуцкага раёна | 3 |
| 10. | Залужская СШ Стаўбцоўскага раёна | 1 |
| 11. | Засульская СШ Стаўбцоўскага раёна | 2 |
| 12. | Налібоцкая СШ Стаўбцоўскага раёна | 3 |
| 13. | Нізаўская БШ Уздзенскага раёна | 3 |
| 14. | Грабнёўская СШ Чэрвенскага раёна | 2 |
| | **Берасцейская вобласць** | |
| 1. | Крошынская СШ Баранавіцкага раёна | 2 |
| 2. | Аброўская СШ Івацэвіцкага раёна | 3 |
| 3. | Падстарынская СШ Івацэвіцкага раёна | 2 |
| 4. | Востраўская СШ Ганцавіцкага раёна | 2 |
| 5. | Мікалаеўская БШ Камянецкага раёна | 2 |
| 6. | Вялікачучавіцкая СШ Лунінецкага раёна | 3 |
| 7. | Сінкевіцкая СШ Лунінецкага раёна | 2 |
| 8. | Крывошынская СШ Ляхавіцкага раёна | 3 |
| [illegible] | [illegible]розаўская СШ Пінскага раёна | 3 |
| 10. | Мачульская БШ Столінскага раёна | 1 |
| 11. | Фядорынская СШ Столінскага раёна | 2 |
| | **Віцебская вобласць** | |
| 1. | Барздоўская СШ Аршанскага раёна | 2 |
| 2. | Старашарабайская пачатковая школа Глыбоцкага раёна | 2 |
| 3. | Валкалацкая СШ Докшыцкага раёна | 3 |
| 4. | Бабыніцкая СШ Полацкага раёна | 2 |
| 5. | Заборская СШ Расонскага раёна | 2 |
| 6. | Германавіцкая СШ Шаркаўшчынскага раёна | 1 |
| 7. | Лужкоўская СШ Шаркаўшчынскага раёна | 2 |
| | **Гарадзенская вобласць** | |
| 1. | Верцялішкаўская СШ Гарадзенскага раёна | 3 |
| 2. | Бердаўская СШ Лідскага раёна | 1 |
| 3. | Дзітвянская СШ Лідскага раёна | 2 |
| 4. | Валеўская СШ Навагрудскага раёна | 3 |
| 5. | Залескі сацыяльна-педагаг. комплекс Смаргонскага раёна | 2 |
| 6. | Хадзілонская БШ Шчучынскага раёна | 2 |
| | **Гомельская вобласць** | |
| 1. | Рассветаўская СШ Акцябрскага раёна | 2 |
| 2. | Ленінская СШ Добрушскага раёна | 3 |
| 3. | Дабрынская СШ Ельскага раёна | 1 |
| 4. | Запясоцкая БШ Жыткавіцкага раёна | 2 |
| 5. | Хільчынская СШ Жыткавіцкага раёна | 2 |
| 6. | Ворнаўская СШ Кармянскага раёна | 2 |
| 7. | Мормальская СШ Жлобінскага раёна | 2 |
| 8. | Бяляўская БШ Чачэрскага раёна | 3 |
| 9. | Буда-Сафіеўская БШ Лельчыцкага раёна | 2 |
| 10. | Прыбалавіцкая СШ Лельчыцкага раёна | 2 |
| | **Магілёўская вобласць** | |
| 1. | Любоніцкая СШ Кіраўскага раёна | 3 |
| 2. | Сакольніцкая школа-дзіцячы сад Крычаўскага раёна | 3 |



**Дыплом першай ступені ўручаецца Мачульскай базавай школе Столінскага раёна**



**Выступае фальклёрны ансамбль "Жавароначкі"**

Падчас правядзення конкурсу на лепшую вясковую школу Залужскую сярэднюю школу Стаўпецкага раёна наведалі Уладзімір Содаль, Алесь Лозка, Яўген Сахута, Аляксандр Сядзяка. Сустрэча ў школьнай гасцёўні называлася "Ад прадзедаў, спакон вякоў, нам засталася спадчына". Пра гісторыю Полацка і Турава, Навагрудка і Заслаўя расказвалі ўдзельнікі сустрэчы. Гучалі вершы, беларускія народныя песні. Цікавымі былі і распаведы гасцей з Менска. Залужская школа атрымала на конкурсе дыплом 1-й ступені.

**На здымках:**

1. У час творчай сустрэчы ў Залужскай сярэдняй школе.

2. Выступае выпускнік Залужскай СШ, доктар мастацтвазнаўства, старшыня Саюза мастакоў народнай творчасці Беларусі Яўген Сахута.

**Усе фота Яўгена Казюлі, БелТА.**





**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

## "З чужой моўнай практыкі..."

Шаноўныя чытачы "Нашага слова". Мы ізноў закончылі друкаваць чарговы цыкл артыкулаў Паўла Сцяцко "З чужой моўнай практыкі". Гэтая рубрыка карысталася сталай цікавасцю. Мы выказваем шчырую ўдзячнасць Прафесару Сцяцко, і спадзяёмся, што Павел Уладзіміравіч дашле ў рэдакцыю матэрыялы, каб працягваць далей такую патрэбную гутарку пра чысціню беларускай мовы.

## Разам з тым...

... беларуская мова – гэта цэлы сусвет. У свой час я пачаў друкаваць "Аповесць пра словы", дзе праводзіў паралелі паміж беларускай мовай і старажытна-індыйскай мовай – санскрытам. Гэтыя публікацыі, якія ні ў якім разе не прэтэндавалі на навуковасць, а ўяўлялі сабой мастацка-публіцыстычныя ЭСЭ выклікалі неадназначную рэакцыю навукоўцаў. Я часова спыніў друк "Аповесці пра словы". Але вось у 1999 годзе выйшла кніга Валянціны Адамаўны Выхоты "Нямецка-беларускія моўныя паралелі". Мы не збіраемся перадрукоўваць гэтую кнігу, але возьмем з яе тую частку, якая ўкладваецца ў канцэпцыю "Аповесці пра словы".

Сама Валянціна Выхота выдзяляе дзве вялікія групы слоў роднаснай лексікі ў нямецкай і беларускай мовах:

***I. Словы з агульным генетычным коранем у нямецкай і беларускай мовах.*** Тут мы маем дзве падгрупы:

1. Словы індаеўрапейскага паходжання.

2. Словы, якія можна лічыць запазычанымі з трэціх моў.

***II. Словы, якія ўтвораны на грунце лексічных адзінак агульнага генетычнага кораня.*** Тут таксамадзве падгрупы:

1. Словы, якія маюць роднасныя словы ў беларускай мове.

2. Нямецкія словы, якія ў беларускай мове не маюць каранёвага адпаведнага слова, але семантыка яго досыць празрыстая:

а) дзеясловы, якія ўтвораны ад назоўніка агульнага кораня;

б) словы, якія паслужылі асновай для фармавання новых лексічных адзінак таго ж кораня;

в) словы, семантыка якіх выяўляецца на грунце ведання іншых роднасных словаў дадзенага словаўтваральнага гнязда.

г) простыя словы, якія ўваходзяць у склад складаных слоў, вядомых з роднай мовы.

Але словы другой групы, як правіла, -- вынік пранікнення германізмаў у беларускую мову. Па рознаму ішло гэтае пранікненне. Мы сёння можам назваць некалькі кірункаў.

1. Найбольш старажытны пласт германізмаў, занесеных у балцкія і славянскія мовы яшчэ готамі.




2. Словы і фраземы, занесеныя ў беларускую мову падчас вайсковых, гандлёвых і навукова-асветніцкіх ды рэлігійных дачыненняў з немцамі непасрэдна беларусаў.

3. Германізмы запазычаныя ў немцаў палякамі ды расейцамі і занесеныя ў беларускую мову.

4. Германізмы, занесеныя ў беларускую мову праз ідыш (еўрапейскі варыянт яўрэйскай мовы, узніклы на грунце германскіх дыялектаў).

Словы, якія разглядае В. Выхота, не прапушчаны ў "Слоўніку іншамоўных слоў" А.М. Булыкі, але трактоўка іх карэнным чынам адрозніваецца. І паколькі, хоць кніга В. А. Выхоты і выйшла ў выдавецтве "Энцыклапедыя", наклад яе склаў усяго 250 асобнікаў, мы з наступнага нумара пачынаем друкаваць найбольш цікавыя раздзелы гэтай кнігі.

*Станіслаў Суднік.*





# У гонар Францішка Багушэвіча

21 сакавіка ў Менскім кінатэатры "Змена" адбылася вечарына з нагоды 160-х угодкаў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, наладжаная Таварыствам беларускай мовы.

Пачалася вечарына фільмам "За Кушлянамі снег" і выступам рэжысёра Міхася Жданоўскага. Па сутнасці фільм прысвечаны двум чалавекам: Францішку Багушэвічу і дырэктару музея Францішка Багушэвіча ў Кушлянах Алесю Жамойціну. Сам спадар Жамойцін не змог прысутнічаць на вечарыне, але была яго старэйшая дачка Зарына, якая ў фільме спявае малітву. Нельга перадаць усю тую цеплыню, з якой аднеслася да дзяўчыны перапоўненая зала. Характэрныя словы адной жанчыны, звернутыя да Зарыны: " У адным я ўпэўнена, з вас рускіх яны ўжо не зробяць".

Перад прысутнымі выступілі даследчык творчасці Багушэвіча пісьменнік Уладзімір Содаль, славуты фальклёр – тэатр "Госціца" пад кіраўніцтвам Ларысы Сімановіч з "Гуканнем вясны", Алесь Лось са сваім гуртом, вакаліст ансамбля "Свята" Вячаслаў Статкевіч з прэм'ерай песні пра Ашмяны і народнай песняй "Калі каліна не цвіла". Леў Гумілеўскі – аўтар помніка Францішку Багушэвічу ў Смаргонях, які толькі на вечарыне і даведаўся, што ёсць такое рашэнне ўладаў пра ўстаноўку гэтага помніка.

Пакарыла прысутных шматграннасцю свайго таленту Марыя Новікава, якая выканала Прадмову да "Дудкі беларускай", абразок Багушэвіча "Палясоўшчык", а таксама цудоўную песню на словы Р. Барадуліна "Сустрэнемся на Плошчы Незалежнасці".

Уладзімір Арлоў прачытаў сваё знакамітае эсэ "Незалежнасць гэта...", а старшыня ТБМ Алег Трусаў паведаміў, што імя Багушэвіча будзе нададзена бібліятэцы № 14 г. Менска, а за права насіць імя Багушэвіча змагаюцца тры вуліцы Менска: Інтэрнацыянальная, Чырвонаармейская і Валадарскага.

Дасціпныя беларусы адразу пачалі жартаваць, што паколькі Багушэвіч быў адвакатам, то больш шанцаў мае вуліца Валадарскага і хутка прыхільнікі і аматары творчасці Багушэвіча будуць сядзець на вуліцы яго імя.

Акрамя менчан на вечарыне прысутнічалі сябры Верхнедзвінскай, Падсвільскай, Магілёўскай, Ушацкай, Наваградскай, Наваполацкай, Смілавіцкай, Светлагорскай, Лідскай, Дзятлаўскай, Пінскай, Хоцімскай і інш. арганізацыяй ТБМ. І гэта нягледзячы на працоўны дзень.

На завяршэнне для канчатковай ацэнкі ролі Багушэвіча мушу пераказаць на памяць словы з адной цытаты прыведзенай У. Содалем:"Багушэвіч выбудаваў свой беларускі космас на аснове таго хаосу, які застаўся пасля разбурэння ВКЛ".

Менавіта за гэта ён і такі шанаваны на Беларусі і будзе шанаваны праз вякі.

*Станіслаў Суднік.*

*(Фотарэпартаж з імпрэзы у бліжэйшых нумарах.)*

## Ліда. Сабрана 4100 подпісаў за БНУ

**За апошні тыдзень у лідскую скарбонку паступіла яшчэ 530 подпісаў за Беларускі нацыянальны універсітэт. Гэтыя подпісы сабраны па вёсках Лідскага раёна. Усяго ад пачатку акцыі ў Лідзе сабрана 4 135 подпісаў.**

**На гэтым тыдні Ліду наведала намеснік старшыні Гарадзенскага аблвыканкама па ідэалогіі Марыя Бірукова. Між іншым яна займалася і лідскай актыўнасцю па зборы подпісаў за БНУ. Да гонару лідзян многія дырэктары школаў адказалі сп. Біруковай: "Збіралі і збіраць будзем. А дзе нашым дзецям вучыцца?" Нагадаем, што ў Лідзе 50% дзяцей вучыцца па-беларуску, у Лідскім раёне 100% школ беларускія.**

**Трэба разумець, што калі актыўнасць збору подпісаў за БНУ на Лідчыне спадзе, то, магчыма, гэта – вынік прыезду спадарыні Біруковай.**

# БЕРАСЦЕ ЗАВАРУШЫЛАСЯ

Доўгі час дзейнасць Берасцейскай Рады ТБМ выклікала трывогу. Да старых праблем – нешматлікія шэрагі сяброў Таварыства, неўнармаванасць структур – дадалася новая, асноўная – да гэтага часу арганізацыя не прайшла перарэгістрацыю.

З гэтай нагоды, а таксама з культурна-асветніцкімі мэтамі Берасце наведалі старшыня ТБМ Алег Трусаў, намеснік старшыні Людміла Дзіцэвіч, кіраўнік справамі Сяргей Кручкоў і пісьменнік, віцэ-прэзідэнт беларускага ПЭН-цэнтра Уладзімір Арлоў.

Берасцейцы сустракалі гасцей у асветным цэнтры імя Ул.Калесніка педагагічнага універсітэта. Прафесар Мікола Мішчанчук запачаткаваў размову. Студэнты, выкладчыкі, сябры ТБМ уважліва слухалі аповед Ул. Арлова пра акалічнасці выхаду кнігі ў сааўтарстве з А.Сагановічам "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". Вельмі спадабаліся слухачам мініяцюры пра словы. Адчувалася, што людзі добра ведаюць Арлова і паважаюць яго за адданасць нацыянальнай ідэі, перакананасць і непахіснасць, разумеюць адметны арлоўскі гумар. Госця закідалі пытаннямі, надзённымі і вострымі.

Я распавяла пра гісторыю стварэння кнігі "Аняменне: з хронікі знішчэння беларускай мовы". Цікавасць да гэтага ўнікальнага выдання была вялікай – гучала шмат пытанняў, кнігу раскупілі імгненна, расчараванымі засталіся тыя, каму не хапіла.

Старшыня Алег Трусаў правёў пасяджанне гарадской Рады ТБМ. Сябры Таварыства гаварылі пра ўласную пасіўнасць, і адчувалася іх ніякаватасць перад кіраўніцтвам Рэспубліканскай Рады. Адчувалася, што настаў пераломны момант, калі работа ў Радзе пойдзе шпарчэй і актыўней. Падзякаваўшы старшыні Зоі Мельнік, сябры ТБМ абралі новае кіраўніцтва. Старшынёй Берасцейскай гарадской Рады стала Ніна Новік, выкладчык педуніверсітэта. Павялічылася і сама арганізацыя - проста ў зале прысутныя пісалі заявы пра ўступленне ў шэрагі ТБМ. Збіраліся подпісы за адкрыццё Нацыянальнага універсітэта, распаўсюджваліся падпісныя лісты на газету "Наша слова".

Рэспубліканская Рада падаравала цэнтру імя Ул.Калесніка, бібліятэцы педагагічнага універсітэта, абласной і гарадской бібліятэкам кнігі, выдадзеныя ў свой час Таварыствам.

Прысутныя не спяшаліся разыходзіцца.

Купляліся кнігі, набываліся аўтографы. Людзі імкнуліся пагаманіць з Уладзімірам Арловым пра перспектывы беларускай кнігі, з Алегам Трусавым – пра перспектывы беларускай дзяржавы.

У дарозе дадому падумалася, што вось яшчэ адна арганізацыя ТБМ набыла другое дыханне. І такіх з кожным днём усё больш і больш. Мацнее Таварыства, упарадкоўваюцца яго шэрагі, шырацца стасункі. Аняменне беларускага краю замаруджваецца.

*Людміла Дзіцэвіч, намеснік старшыні ТБМ.*

# "Зямля пад белымі крыламі"

Творчасць мастака Віктара Сташчанюка да апошняга часу была больш вядома ў асяроддзі вучоных-гісторыкаў. Мастак займаўся вельмі складаным і спецыфічным мастацтвам -- гістарычнай рэканструкцыяй, мэта якой -- паводле наяўных архіўных дакументаў узнавіць воблік страчанага гістарычнага помніка або цэлага горада ў вызначаную эпоху. Рэканструкцыі архітэктурна-пейзажных ансамбляў, выкананыя Віктарам Сташчанюком, знаходзяцца ў шматлікіх музеях краіны.



А зараз менчане могуць пазнаёміцца і з творчасцю Сташчанюка - жывапісца. У бібліятэцы імя Л. М. Талстога адкрылася выстава **"Зямля пад белымі крыламі"** - вынік шматлікіх экспедыцый мастака па Беларусі.

**На здымку:** "Горад Заслаўе ў 18-м стагоддзі" (гістарычная рэканструкцыя).

**Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**

# 22 сакавіка Аляксею Пысіну – 80 гадоў

Паэтычная душа ніколі не ведае стомы творчасці, іншае бывае сталеецца жыць, успыхнуўшы яркай знічкай таленту, згарае фізічна, пакідаючы пасля сябе неўміручыя творы. Для большасці паэтаў творчасць – цяжкі пакутны шлях ад радка да радка, ад верша да верша, ад нізкі да нізкі. І ўвесь гэты час – душэўныя пакуты, перажыванні. Такім мне згадваецца творчы шлях Аляксея Васільевіча Пысіна.

Нарадзіўся будучы паэт у вёсцы з паэтычнай назваю Высокі Барок Краснапольскага раёна што на Магілёўшчыне ў звычайнай сялянскай сям'і. Вучоба ў школе, праца, затым у 1938 годзе Аляксей Васільевіч паступае на вучобу ў Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава ў Менску. Праз год адбываецца аб'яднанне Заходняй Беларусі і дзяржаве тэрмінова спатрэбіліся журналісцкія кадры. Студэнт Пысін з другога курса накіроўваецца на працу ў рэдакцыю Бельскай раённай газеты на Беласточчыне. Вайну прайшоў ад пачатку і да канца. З 1941 года па 1945 у радах Чырвонай Арміі. У гэтыя гады давялося ўдзельнічаць у баях на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім, а таксама 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх франтах. Быў двойчы паранены. Ратны шлях паэта адзначаны медалямі. Скончылася вайна, настала мірнае жыццё. Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе распачынае працу ў раённым друку, а потым становіцца супрацоўнікам абласной газеты "Магілёўская праўда".

Ужо ў сталым ўзросце ў 1958 годзе заканчвае Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР у Маскве. У 1974 годзе Аляксей Пысін узначаліў Магілёўскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пісаць пачаў рана, першыя вершы з'явіліся ў друку ў 1938 годзе, але сваю першую кніжку паэзіі змог выдаць толькі праз 13 гадоў у 1951 і называлася яна "Наш дзень". Кнігі надалей няспешна, але грунтоўна сталі выходзіць кнігі паэта Аляксея Пысіна, нягледзячы на тое, што ён жыў у правінцыі.

1959 год асвяціў нас "Сінім ранкам", 1962 разліўся "Сонечнай паводкаю", у 1965 годзе закранулі душу "Мае мерыдыяны", у 1967 годзе чытач адчуў "Тваё далоні". Былі яшчэ зборнікі вершаў "Пойма" (1968г.), "Да людзей ідучы" (1972 г.), "Вербавы мост" ды іншыя.

Не забываў паэт чытачоў і малодшага ўзросту. Для дзяцей пабачылі свет наступныя зборнікі вершаў "Матылёчкі – матылёк" (1962 г.), "Вясёлка над плёсам" (1964 г.), "Кавылёк" (1966 г.). "Колькі сонцаў" (1979 г.) і іншыя.



Працаваў Аляксей Пысін і ў галіне перакладу. Пераклаў на беларускую мову зборнік вершаў М.Ханікава "Жураўлі над стэпам" (1972 г.) ды разам са Сцяпанам Гаўрусёвым – "Маабіцкі сшытак" Мусы Джаліля (1975 г.).

Сярод узнагарод варта адзначыць Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы у 1968 годзе за зборнік вершаў "Твае далоні".

Памёр паэт у 1981 годзе.

*Язэп Палубятка.*

*Фота з дассе БелТА.*

Людміла Дзіцэвіч, намеснік Старшыні ТБМ

# ЗАКОН АБ АДУКАЦЫІ: НАБЫТКІ І СТРАТЫ

**Даклад на навукова-практычнай канферэнцыі "Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы" 26 лютага 2000 года**

Услед за прыняццем Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь 29 кастрычніка 1991 года быў прыняты Закон аб адукацыі, які заявіў пра стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі і гарантаваў кожнаму грамадзяніну актыўнае далучэнне да культурна-гістарычнай спадчыны беларускага народа. З увядзеннем гэтага закона ў жыццё беларуская нацыя пачала мець пэўныя набыткі.

Так, беларуская мова паводле артыкула шостага з'яўлялася асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах, і адпаведна гэтаму з верасня 1991 года пачалося інтэнсіўнае адкрыццё беларускамоўных дзіцячых садкоў, школ і плыняў у ВНУ. Ужо ў верасні 1994 года, які лічыцца "пікам" беларусізацыі адукацыйнай сістэмы, у Менску вучылася ў першых беларускамоўных класах 58,6% вучняў, у Беларусі – 76%.

Упершыню за шэсць дзесяткаў гадоў беларускі выпускнік школы змог працягнуць беларускамоўнае навучанне на плынях у ВНУ, і гэтым самым дзяржава заявіла пра жаданне вырашаць адукацыйныя пытанні на падставе агульнапрынятых міжнародных нормаў, з годнасцю праводзячы ў жыццё выкананне артыкула пятага Закона аб адукацыі пра роўныя магчымасці доступу да нацыянальнай сістэмы адукацыі.

Для падрыхтоўкі кадраў беларускамоўных установаў працавалі шматлікія курсы у школах, Гарадскім і Рэспубліканскім інстытутах удасканалення настаўнікаў і інш. Для стымулявання выкладчыкаў была ўведзена дзесяціпрацэнтная грашовая дабаўка тым, хто выкладае па-беларуску.

Школы новага тыпу: гімназіі, каледжы, ліцэі – адчыняліся ў больш кароткі тэрмін, калі вызначылі свой статус як беларускамоўная ўстанова.

З дапамогай навукоўцаў было прынята рашэнне пра немагчымасць навучання дзяцей 1 і 2-х класаў адначасова на дзвюх роднасных мовах і ўведзена вывучэнне роднай мовы з 1-га класа, рускай – з 3-га.

Упершыню за доўгі перыяд была павялічаная колькасць гадзінаў на вывучэнне беларускай мовы, літаратуры, гісторыі Беларусі. Пасля доўгіх спрэчак чыноўнікі адукацыі спыніліся на роўнай колькасці для роднай і рускай моваў. Жыццё ж падштурхнула на вырашэнне пытання ў карысць роднай мовы што сталася вынікам зацятага змагання руплівцаў беларушчыны.

Паводле артыкула чацвёртага Закона аб адукацыі дзеля забяспечання аднoй з галоўных мэтаў адукацыі – авалодванне дзяржаўнай мовай як галоўным сродкам зносін паміж грамадзянамі – беларуская мова як прадмет стала абавязковым экзаменам у форме дыктоўкі для выпускнікоў школ, а таксама для абітурыентаў. Быў уведзены 90-гадзінны курс беларускай мовы для першакурснікаў усіх ВНУ.

У навучальных планах некаторых школ з'явілася новая дысцыпліна – беларусазнаўства. А рашэннем калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 23 верасня 1992 года гэты курс быў уключаны ў лік базавых дысцыплін гуманітарнай падрыхтоўкі ў ВНУ ўсіх тыпаў (праўда, два навучальныя дапаможнікі да яго пад рэд. П. Брыгадзіна і ў аўтарстве І. Саракавіка выйшлі ўжо тады, калі чыноўніцтва ад адукацыі зразумела "небяспечнасць" для моладзі такога курсу і ліквідавала яго). Уведзеная ў дзеянне праграма па нацыянальным падручніку забяспечвала адукацыю сваімі (не маскоўскімі) сродкамі навучання, са старонак якіх зніклі струхлелыя догмы верных ленінцаў. Школьнікі і студэнты атрымалі ўпершыню за тры стагоддзі падручнікі па сваёй гісторыі, дзе раней перкручаныя і пастаўленыя на галаву факты занялі годнае становішча. Філасофія селяніна-уласніка, выкінутая на сметнік аўтарамі савецкіх падручнікаў гуманітарных дысцыплін, вартасна размясцілася ў шэрагу этнасавызначальных філасофій, а героі новай савецкай эпохі – Зося Тварыцкая і інш. – набылі зусім не эпахальны выгляд са сваёй сістэмай маральных ідэалаў.

Фармаванне і ўмацаванне нацыянальнай свядомасці грамадзяніна Рэспублікі Беларусь (артыкул 4) узялі на сябе выхаваўчыя сістэмы, і з гэтай задачай паспяхова спраўлялася праграма "Адраджэнне", створаная ў кожным садку, кожнай школе і ВНУ.

Фальклорная спадчына, гісторыя дзяржаўных сімвалаў, радавод вялікіх князёў літоўскіх, падрабязнасці паланізацыі і русіфікацыі, генацыду і лінгвацыду – гэтыя веды імкліва ўсмокталіся дзецьмі і моладдзю на шматлікіх ранішніках, сустрэчах, гадзінах і вечарынах. Калі яшчэ ўлічыць, што існавалі ільготы ў набыцці літаратуры, і беларуская кніга каштавала нашмат таней, чым руская, што ў сістэму адукацыі ішло 10% ад патэнцыяльнага прыбытку, што сярэдняя стаўка ў школах была не ніжэй сярэдняй стаўкі службоўцаў у прамысловасці, а ў ВНУ – у 1,5 разы вышэй – то можна сказаць, што ў пачатку 90-х гадоў адукацыйная сістэма, як пласт народнай гаспадаркі хуткасна займала месца ў вышэйшых колах. Быць выкладчыкам рабілася ганарова і прыбыткова, а быць беларускамоўным выкладчыкам стала адзнакай адукаванасці ды шляхетнасці.

Так рака нацыянальнай адукацыі цераз ачышчэнне крыніц, цераз завалы, запруды і перашкоды прабівалася да натуральнага рэчышча сусветных адукацыйных набыткаў.

Але гэты тэмп, гэты кірунак не быў усвядомлены усёй нацыяй, і пераломны 1995 год стаў адлікам ужо не набыткаў, а стратаў. І першым страчаным аб'ектам стаў, на жаль, імідж роднай мовы, які пасля вядомага выказвання першай асобы дзяржавы ў 1994 годзе імкліва пакаціўся ўніз пад "гоготанье пятой колонны", якой было лягчэй вывучыць за ноч японскую мову, але не беларускую за 10 гадоў. Чыноўніцтва навыперадкі кінуліся так хутка абтрэсваць рукі ад мовы, што не паспявала савецка-беларуская дыяспара, і ўтварылася вартая кнігі Гінеса сітуацыя падчас правядзення Усебеларускага сходу, калі сярод 24 выступоўцаў толькі адзін прамаўляў па-беларуску, і ён быў з Казахстана.

Перастае выконвацца Закон аб адукацыі, і вось ужо пяць гадоў як службовыя асобы, якія не выконваюць яго, не нясуць ніякай адказнасці, тым самым парушаючы артыкул 13 названага Закона.

Трэба адзначыць, што з 41 артыкула Закона не выконваецца больш за палову. Найбольш парушаныя тыя артыкулы, якія адзначаюць прынцыпы, мэты, мову адукацыі, правы і абавязкі ў сферы адукацыі. Амаль усё, што набыла краіна за пяць гадоў Адраджэння, усё, што заклала ў падмурак, рассыпалася і пакацілася. Сама Канцэпцыя нацыянальнай адукацыі яшчэ ў праекце страціла прыдатак Нацыянальная.

У верасні 1995 года адбыўся як бы яшчэ адзін моўны рэферэндум, і паслухмяныя бацькі пад дыктоўку пацягнуліся пісаць заявы пра перавод дзяцей у рускамоўныя класы. Чыноўнікі самі не чакалі такога статкавага інстынкту і, відаць, разгубіліся. Бо якіх толькі супрацьлеглых выказванняў пра б/м адукацыю не наслухалася краіна. Намеснік міністра адукацыі У. Валадзько ў 1997 годзе прамаўляў, што "дапрацаваны Закон аб мовах дасць мажлівасць больш шырокага ўжывання беларускай мовы ў сістэме адукацыі". І пасля такой заявы з'яўляецца Закон аб мовах з пракруставымі і (або), а Закон аб адукацыі нават не сталі змяняць, пра яго проста забыліся.

Сталі крылатымі выразы пра "стабілізацыю пастражаўску" і "рост паплецюхоўску". І гэта на фоне лічбаў па змяншэнні колькасці перашакласнікаў у Беларусі з 76% у верасні 1994 г. да 28% у верасні 1998 г. (у Менску з 58,6% да



**Станіслаў Суднік, Людміла Дзіцэвіч і Уладзімір Содаль на канферэнцыі**

4,7%). У краіне зачынена больш за 600 беларускамоўных школ ва ўсім Менску засталося 13 б/м дзіцячых садкоў, а ў астатніх садках ад беларускай мовы засталіся толькі два выклічнікі "Добры дзень" і "Да пабачэння", закрытыя плыні ў ВНУ. 90-гадзінны курс беларускай мовы у ВНУ зменшыўся да 60 гадзін. Білеты па экзаменах для абітурыентаў падаюцца па руску. Відаць, для ўсеагульнага нацыянальнага "гонару" гімназія № 1 імя Ф. Скарыны, СШ № 19 імя Я. Купалы, СШ № 44 імя Я. Коласа на сёння не маюць ні аднаго беларускамоўнага класа. Усё, што з такой цяжкасцю стваралася, цяпер знішчалася і выкідвалася. Не стала ні курсаў, ні над-бавак, ні сапраўдных беларускіх гімназій, ні ільгот, ні праграм "Адраджэння", ні беларусазнаўства, ні абавязковых экзаменаў у школе, ні рэпрасаваных пісьменнікаў у праграме, ні самога Закона аб мовах.

Як Мамай прайшоўся па ніве беларускай адукацыі. Дайшло да таго, што быць носьбітам беларускай мовы стала не толькі непрэстыжна, але і небяспечна, можна пад дубінкі і ў пастарунак трапіць, як адбылося гэта з вядомым салістам Опернага тэатра Віктарам Скарабагатавым і з многімі іншымі. У газетах сталі з'яўляцца абразлівыя лісты жыхароў, што "народ не хочет разговаривать на этой деревенской, мужицкой мове" ("Народная воля" № 169 ад 17 верасня 1999 г.), а галоўны інспектар упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Л. Кірэеў дагаварыўся да таго, што "наш ... национальный язык – русский" ("Народная воля" ад 27 студзеня 2000 г.). Службовая асоба відавочна, зблытала краіны і нацыі, засяваючы беларускае поле адукацыі рускімі зярнятамі. Зноў з'явілася практыка выкладання гісторыі, культуры Беларусі па-руску, а настаўнікі беларускай мовы на перапынку сталі пераходзіць на "человеческий язык".

Як у сярэдневеччы, сталі паліць "неугодныя" кнігі, метадычны дапаможнік – матэрыялы да экзамену па гісторыі Беларусі настаўніка адной з менскіх гімназій Н.Шаровай – аб'яўлены палкоўнікамі ад адукацыі шкодным, апавяданні па гісторыі Беларусі для малодшых школьнікаў Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род" не пусцілі на парог школы. Беларускі падручнік зноў адсунулі ў кут. Стрэлка на гістарычным гадзінніку Беларусі моцна хістанулася назад.

Трэба адзначыць, што моладзь не любіць такога роду хістанні, тым больш у іх за плячыма няма гэтай цёплай і ўдушлівай Нары сацыялізму. Маладыя заўсёды імкнуцца наперад, дзеці з ахвотай успрымаюць новае. Працуючы намеснікам дырэктара беларускай гімназіі, я назірала, як плакалі вучні пачатковых класаў, калі са школьных кабінетаў выносілі Пагоню, як бегалі яны ў кабінет гісторыі, дзе надалей заставаліся нашыя сімвалы, каб хоць паглядзець на іх. Многія выпускнікі школ, абітурыенты вось ужо на працягу 5 гадоў выбіраюць на экзаменах родную мову, ігнаруючы такі зручны злучнік і (або). У 1996-97 гадах іх было прыблізна 75%, імкненне моладзі да сваёй гісторыі, да вывучэння класічнай, Тарашкевічавай і сучаснай мовы стала прыкметным у апошнія гады насуперак тэндэнцыям беларускіх рэалій.

Трэба адзначыць, што нягледзячы на адсутнасць дзяржаўнага заказу, многія адукацыйныя ўстановы не паддаліся агульнаму "адкату" беларусізацыі, а годна захавалі, а часам і памножылі свае набыткі. На дасягненнях беларускага навучання і выхавання грунтуецца сістэма работы Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта, Беларускага універсітэта культуры, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1 і некаторыя іншыя.

Вычынам можна назваць намаганні бацькоў і дзяцей адстаяць права на адукацыю ў роднай мове. І прыкладам могуць служыць вартыя павагі цярпенне і стойкасць бацькоў Івана Іокшы (СШ № 78). Ул. Раманцова (школа-ліцэй № 16), вучняў 5 "Б" класа СШ № 38 і іх бацькоў, вучняў 9 "А" класа СШ № 191, 9 "А" і "Б" класа СШ №210, 2 "В" класа СШ № 37, 10 "Д" класа СШ № 180 і інш., якія прайшлі ўсе інстанцыі, дайшлі да Міністэрства адукацыі, працавалі супольна з ТБМ і прэсай і дамагліся захавання беларускамоўных класаў.

Трэба адзначыць вялікую працу ТБМ па ўпарадкаванні гэтых намаганняў, па арганізацыі барацьбы за беларускамоўную адукацыю. Напісана мноства зваротаў да службовых асоб адукацыі, праведзены шэраг пікетаў, мітынгаў у абарону класаў і школ, наладжаная сувязь з бацькамі і моладдзю, шырока вядзецца культурна-асветніцкая работа. І самым значным дасягненнем стане адкрыццё Нацыянальнага універсітэта, за які Таварыства вось ужо 10 гадоў вядзе змаганне. І яно пераможа!

# Наша мова для нас святая

**Францішак Багушэвіч.**
*Рэпрадукцыя з партрэта*

У 1882 годзе Іван Тургенеў напісаў: ***"Во дни сомнений, во дни тягостных раздумий о судьбах моей Родины – ты один мне поддержка и опора, о великий, могучий, правдивый и свободный русский язык! – не будь тебя – как не впасть в отчаяние при виде всего, что совершается дома? – Но нельзя верить, чтобы такой язык не был дан великому народу!"***

Гэтыя тургенеўскія, надзвычай прачулыя і патрыятычныя словы вучаць ці ва ўсякім разе вучылі ў нашых школах заўсёды на памяць. Лічу, што робіцца гэта правільна. Завучаныя вучнем згаданыя словы, мо нават кім на пачатку і механічна, з цягам часу праяўляюцца, пераходзяць у кожнай асобе ў патрыятычнае перакананне. Тургенеўскія словы становяцца нібыта малітвай, духоўнай ідэалогіяй, заслонай ад усяго чужога, наноснага. Як мне здаецца, чалавек, які спазнаў яго словы пра мову, зрабіў іх нібыта сваімі, ніколі не дазволіць хаіць родны народ, родную культуру.

Роўна праз дзевяць гадоў пасля Тургенеўскіх слоў пра рускую мову свет пачуў прачулае слоўка і пра беларускую мову, яе годнасць:

"Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-няволі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя "мужыцкай" завуць, а завецца яна "беларускай". Я сам калісь думаў, што наша мова – "мужыцкая" мова і толькі таго. Але паздароў Божа добрых людцоў, як навучылі мяне чытаць-пісаць, з той пары я шмат дзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў; і праканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая. Чытаў я ці мала якіх папераў старых па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: "Божа ж мой, Божа! Што ж мы за такія бяздольныя?! Якаясь маленькая Булгарыя, са жменяю таго народу – якіясьці Харваты, Чэхі, Маларосы і другія пабрацімы нашыя... маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя ксёнжачкі і газеты, і набожныя, і смешныя, і слёзныя, і гісторыйкі, і баечкі: і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як бы захацеў цыдульку ці да бацькі лісток напісаць па-свойму, дык можа б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі: "піша па-мужыцку", і як дурня абсмяялі б. А можа і сапраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага ні сказаць, ні напісаць не можна? Ой, не! **Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам...".**

Да чаго я ўсё гэта?

Вось мне таксама пачало здавацца: калі б кожны беларус, кожны, хто жыве на Беларусі ды ведаў згаданыя Багушэвічавы словы з маленства, ведаў, як малітву, ніколі б і ні ў каго б язык не павярнуўся сказаць штосьць благое пра мову свайго народа.

Пэўна, што так! Дык ці ведаюць? Багушэвічава Прадмова апошнім часам уключаецца ў хрэстаматыі. Значыцца, ва ўсіх, хто вучыўся ці вучыцца ў беларускіх школах, у школах на Беларусі, ёсць мажлівасць спазначаць гэтую Прадмову, гэты пісьменніцкі Зварот да людскіх душаў, зрабіць яго сваім. А ці спазналі, ці ведаюць? Як нядзіўна, многія, закончыўшы школы, нават вышэйшыя навучальныя ўстановы, і не чулі гэтых слоў, ці ва ўсякім разе, калі я ім іх нагадваў, не маглі сказаць, хто іх аўтар, якое іхняе ўражанне было, калі яны пачулі іх упершыню. І самае цікавае, што нямала сярод гэтых нязнаек журналістаў, газетчыкаў, дзеячоў – культуры, рэжысёраў, якія штодня пры слове, пры ідэалогіі. Каго мне многія з іх толькі не называлі за аўтара згаданых слоў – і Скарыну, і Багдановіча, і Купалу... І нават Кастуся Каліноўскага. Але сутнасць не ў тым, што многія не могуць згадаць імя аўтара. Галоўнае – у іхніх душах не засеяны зварот пісьменніка-патрыёта. У іхніх душах – нацыянальная пустка...

На каго наракаць? Вядома, найперш на настаўнікаў роднай мовы: не данеслі ў сваю пару да дзіцячых душаў такі моцны моўны эмацыянальны зарад, не ўразілі, не кранулі струны іхніх душаў... Хто крануў, данёс да дзяцей Багушэвічаву прадмову да "Дудкі Беларускай", той, можна не сумнявацца, выгадаваў грамадзяніна. Такая асоба, такая постаць, не павінна зрабіцца нігілістам, дэмагогам, касмапалітам, бо гэтая Прадмова вучыць любіць родны народ, родную мову, быць адданым роднаму краю, роднай зямлі, Бацькаўшчыне. Яна даверлівая, разважлівая, бо напісаная Чалавекам, які ведаў сам не адну мову і на іх фоне спазнаў хараство сваёй роднай мовы, што яна такая ж панская, людская, як і любая іншая: нямецкая, французская, альбо якая іншая. Яна нам Богам дадзеная.

Дык можа будзем вучыць словы Багушэвічавай прадмовы гэтак, як вучылі і вучым тургенеўскія?! Хаця, калі шчыра прызнацца, шмат хто на Беларусі не вельмі ведае і Тургенеўскіх слоў. Калі многім з іх я цытаваў і Тургенева, і Багушэвіча, шмат хто толькі лыпаў вачыма. Былі сярод іх і маладыя дырэктары, і супрацоўнікі міліцыі, і медыкі, і мае калегі, і нядаўнія выпускнікі. За свае словы, назіранні ручаюся. А настаўнікаў роднай мовы заклікаю: дапамажыце дзецям Багушэвічаву прадмову да "Дудкі Беларускай" зрабіць сваёй, зрабіць малітваю. Беларусь вам за гэта аддзячыць!

"Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю.

Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як і з Польшчай з'ядналася дабравольна, дык усе яе "БЕЛАРУСІЯЙ" звалі, і недарма ж гэта. Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная. Яна была БЕЛАЯ, ЧЫСТАЯ, нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася.

Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек перад скананнем, каторому мову зойме, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе: ото ж Гаворка, язык і ёсць АДЗЕЖА ДУШЫ".

Здаецца, ведай толькі гэтыя Багушэвічавы словы і ты ўжо назаўсёды скіруешся ў роднае рэчышча і ніколі не збочыш з яго кім бы ні стаў: інжынерам, настаўнікам, вучоным, дзяржаўным дзеячом. А яно так і рабілася з тымі, каму Бог даў спазнаць Багушэвічаву Прадмову да "Дудкі Беларускай". Усе вялікія адраджэнцы канца XIX – пачатку дваццатага стагоддзя былі абуджаныя Багушэвічам.

А што ж нам замінае выхоўваць і гадаваць нашых дзяцей належна?

*Уладзімір Содаль*

**Памятны камень на тырыторыі сядзібы ў вёсцы Кушляны Смаргонскага раёна**

**Помнік Ф. Багушэвічу ў пасёлку Жупраны Смаргонскага раёна, дзе пахаваны паэт**

## Да 160-х угодкаў Вялікага Беларуса – Адраджэнца

### У Лідзе зноў – свята паэзіі!

Як ужо распавядалася шаноўным чытачам ("Наша слова", №9/446 за 1.03.2000г.), нядаўна ў Лідзе адбылося літаратурнае свята – конкурс беларускіх паэтаў нашага горада і раёна.

Вось і цяпер, як лагічны працяг гэтай добрай традыцыі – зноў літаратурныя чытанні. Але гэтым разам – з прычыны надзвычай важнай: з нагоды 160-х угодкаў сусветна вядомага класіка і пачынальніка новай беларускай літаратуры Францішка Бенядзікта Багушэвіча (21. 03. 1840 - 28. 04. 1900г.г.).

**Буклет, выпушчаны да Багушэвічаўскіх чытанняў у Лідзе**

Свята, прысвечанае вялікаму Пісьменніку-Дэмакрату, Народнаму Заступніку і Праваабаронцу, ладзілася намаганнямі лідскіх літаратараў сумесна з мясцовымі аддзяленнямі Таварыстваў беларускай мовы і школы. Непасрэдныя арганізатары гэтай літаратурна-мастацкай вечарыны – Артур Ганько, Станіслаў Суднік, Наталля Цвіркун, Анатоль Крупа і інш.

Увазе гледачоў была прапанавана цікавая і разнастайная праграма, ва ўступнай частцы якой гучаў расповяд аб жыцці, творчасці і ролі Славутага Песняра ў нацыянальна-вызвольным руху на Беларусі, а ў сувязі з гэтаю тэмаю не засталіся па-за межамі ўвагі выступоўцаў і некаторыя актуальныя сённяшнія праблемы і надзённыя патрэбы Беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху.

Чыталіся вершы і ўрыўкі з Багушэвічавых Прадмоў і апавяданняў, цытаваліся выказванні вядомых даследнікаў Асобы Вялікага Адраджэнца.

Імпрэза атрымалася вельмі цікавай. Не менш захапляльнымі былі і астатнія ейныя часткі, як, напрыклад, адмысловы конкурс-віктарына, складзены паводле тых біяграфічных, грамадска-гістарычных і літаратурных фактаў, якія непасрэдна звязаны з жыццём і творчасцю нашага выбітнага Беларуса. Прынамсі, некаторыя з шаноўных гледачоў, што прынялі ўдзел у віктарыне (сп.сп. Таісія Шчаблыкіна, Людміла Грышко і інш.) атрымалі па некалькі прызоў – каштоўныя кнігі і аўдыёкасеты з запісамі папулярных беларускіх бардаў і рокгуртоў. Напрыканцы юбілейнай вечарыны-імпрэзы выступілі, а таксама прачыталі свае вершы Пётра Макарэвіч, Станіслаў Суднік, Святлана Цішук, Людміла Грышко, Алесь Стадуб, Уладзімір Малец, Іосіф Лапата і інш.

Вельмі парадавалі прысутных і зусім юныя нашы паэты – вучні 6-х - 10-х класаў Лідскіх школ: Ясь Сазанавец, Пасканава Вольга, Жлабовіч Ілля, Святлана Моніч і інш.

У бліжэйшы час лідзян чакаюць новыя цікавыя літаратурна-мастацкія святы, конкурсы і чытанні.

Падзякуем ж Богу, што даў нам, беларусам, такога геніяльнага Песняра! Хай жа і надалей, кажучы словамі самога Паэта: "нашая ўвага, павага, шанаванне і гонар да свайго Творцы пераходзіць у вечную, незгасальную памяць аб усім, якая будзе ўсіх нас наталяць усеабдымнай любоўю да сваёй Бацькаўшчыны, да яе мовы, культуры, літаратуры і гісторыі..."

*Юры Карэйва,*
*рэдактар часопіса "Ад лідскіх муроў".*

*Наша мова для нас святая,*
*Бо яна нам ад Бога даная...*
*Францішак Багушэвіч.*

# Духоўная старонка

## МАЙМУ РОДУ ПРЫСВЯЧАЮ

Парафія касцёла Св. Сымона і Св.Алены, як і многія менчане, памятае і будзе памятаць аб фундатары гэтай цудоўнай святыні Эдвардзе Вайніловічы і яго жонцы Алімпіі.

У святыні, вернутай 10 гадоў таму (22 лістапада 1989 г.), усё больш развіваецца ўсебаковая духоўная паслуга вернікам і іхнім сем'ям. А ў гэтым юбілейным 2000 годзе касцёлу спаўняецца 90 гадоў ад дня яго пасвячэньня 1910 – 2000 г.г. Добры Божа, благаславі ўсе нашыя святыні і храмы Беларусі і ўсіх, хто з вераю ўваходзіць у іх.

Радасць напаўняе сэрца, што нашая сьвятыня зноў можа служыць усім, хто імкнецца да Пана Бога і да спакою ў душах людзей. Але не толькі гэтым абмяжоўваецца дзейнасць святыні.

Тут выдадзена кніжка-буклет "Касьцёл Св. Сымона і Св. Алены";

Духоўным тэатрам "Анёл" пастаўлена містэрыя-спектакль "Храм", прысвечаная памяці Э.Вайніловічам і яго сям'і;

Праведзены пэўныя работы на фамільных могілках Вайніловічаў у вёсцы Савічы, Капыльскага раёна.

Прапануемая вам, шаноўныя прыхільнікі беларушчыны, кніга мастака Уладзіміра Лукшы "Шляхам Вайніловіча" – яшчэ адна цаглінка ў падмурак памяці пра гэтага добрага, высакароднага, духоўна багатага чалавека. Усё, што сабрана ў гэтай кніжцы, - гэта толькі часцінка ад таго што захавалася, не растаптанае нашай бездухоўнасцю, тое што мы паспелі сабраць амаль з-пад ног чалавечай гардыні.

Нашай мэтай было паказаць і заахвоціць сённяшняе пакаленне на прыкладзе сям'і Вайніловічаў, іх, у сваім часе, жывую веру, іх жаданне рабіць добрыя ўчынкі бліжнім, дапамагаць Касцёлу і пакінуць нашчадкам векапомную спадчыну.

Сапраўдная ахвяра – дапамога сваім святыням – гэта не толькі даць тое, чаго чалавек мае шмат, але і падзяліцца нават тым чаго ў яго мала, альбо ўсім – гэтаму прыклад Эдвард Вайніловіч.

Журботны лёс напаткаў спадчыну Э.Вайніловіча: палац у Савічах цалкам знішчаны, на яго месцы цяпер - калгасная ферма. Непадалёку сіратліва стаіць бровар, незвычайная для цяперашніх Савічаў будыніна з чырвонай цэглы, як напамінак аб гаспадарных часах. Жудаснае відовішча ўяўляюць магілы Вайніловічаў. Сучасныя вандалы не толькі паскідалі надмагільныя пліты, але і раскапалі самі магілы, знішчылі парэшткі пахаваных там людзей. Так некалі, у старажытныя часы, захаёўнікі прымушалі палоннікаў перацідаць на пясок, на пыл косці сваіх продкаў, каб назаўсёды знішчыць памяць пра іх. І калі сённяшнія старажылы вёскі яшчэ ўспамінаюць пра добрага пана Вайніловіча, дык іхнія нашчадкі, напэўна, ужо і ведаць не будуць, што гэта за камяністы ўзгорак знаходзіцца сярод поля, і толькі дзве высокія сасны, якія растуць на ім, калі б яны змаглі гаварыць, расказалі б пра яго.

Ні ўпарадкаванне могілак намаганьнямі касцёла Св. Сымона і Св. Алены і мясцовай школы, ні гутаркі з жыхарамі, ні духоўныя канцэрты – нішто не спыніла вандалаў. Рабаўніцтва працягваецца і сёння: вясной 1999 г. знікла надмагільная пліта дачкі Э.Вайніловіча – Алены.

Толькі пры сапраўднай любові да Бацькаўшчыны і жывой веры можна будаваць добрую будучыню на падмурку продкаў. Бо ў Храме немагчыма не ўспомніць у малітвах пра бліжніх, пра Богам дадзены край, пра продкаў. Тады не так проста будзе таптаць бацькоўскія адвечныя традыцыі ці разбураць святыні, ламаць на могілках крыжы, архітэктурную спадчыну, вялікую і малую. Паламаўшы і разбурыўшы святыні, толькі цяпер мы адчулі і ўбачылі, што паламалі, разбурылі штосьці вялікае і ўзнёслае – душы людскія, нябачныя храмы ў душах і сэрцах чалавечых.

Увайдзіце ў Храм, не бойцеся, Бог чакае Вас!

Бацькі вашы не баяліся Храма, яны вельмі цанілі і любілі Храм, духоўнасць і Бога. Калі знойдзеш веру, знойдзеш і сябе, і народ, і дапамогу Божую.

Шаноўныя людзі! Беражыце тыя крохі памяці, якія мы яшчэ маем. Памятайце, што без мінулага няма і будучыні.

Няхай жа кніжка хоць крыху наблізіць нас да цывілізаваных народаў, якія ведаюць сваю гісторыю, умеюць шанаваць яе і вучаць гэтаму сваіх дзяцей.

У Міжнароднай дэкларацыі правоў чалавека чытаем: "Мы ўзялі прыроду і зямлю ў нашых дзяцей у часовае карыстанне і павінны ім яе вярнуць", - якою мы пакінем зямлю і гісторыю нашым дзецям?

Ідэя стварэння гэтай кнігі зарадзілася даволі даўно, але з-за таго што з дапамогаю фатаграфій немагчыма перадаць усю адметнасць гістарычных мясцінаў Вайніловічаў і таго гістарычнага духу – задума чакала свайго часу. Культурная спадчына, якую пакінулі нам прадзеды, нібы дарагія пярліны была шчодра рассыпана па ўсёй Беларусі ў выглядзе святыняў, палацаў, замкаў, двароў, помнікаў, кніг, фальклёру, музыкі, мастацтва, архітэктуры і інш. Але, на жаль, мы не змаглі зберагчы ўвесь гэты духоўна – культурны скарб, бо недаацэньвалі яе велічы і жыццедайнай сілы. Гісторыя не знішчае, знішчаюць рознага кірунку ідэалогіі, культы і апустошаныя душою істоты.

І надзея не падвяла. Аднаго дня прыходзіць у касцёл

**Савіцкі палац Вайніловічаў. З малюнка Н. Орды. 1860-я гады**

сп. Уладзімір Лукша – мастак, з якім я даўно знаёмы, прапануе свае паслугі. Распачалася падрыхтоўчая праца, было зроблена шмат праектаў, эскізаў, паездак на Капыльшчыну. Але калі праца набліжалася да завяршэння і задуманая кніга была ўжо амаль гатовая, з'явілася такое адчуванне, што яна – альбом, многа паказвае, але сама маўчыць. Мінаці дні душпастырскай працы і думак пра кнігу, пошуку, што зрабіць, каб кніга загаварыла пекнаю, узвышанаю, аздараўляльнай матчынай мілагучнай моваю. Гледзячы на замалёўкі, якія адлюстроўвалі разбурэнне і знішчэньне, смутак напаўняў душу. Бо ці ж можна стаяць на могілках і гаварыць радасна? Не верылася, што гэтак могуць рабіць цывілізаваныя людзі, гэта значыць – усе мы.

Пра нараджэнне новай кнігі даведаўся студэнцкі калектыў тэатра "АНЁЛ" з Універсітэта культуры на чале з мастацкім кіраўніком Наталляй Міцкевіч. Яны запрапанавалі, каб у канцы гэтай кнігі быў надрукаваны поўны тэкст п'есы "ХРАМ" у 2-дзеях пра Вайніловічаў. Прапанова была адразу прынята. Дзякуючы ёй Пан Бог дапамог мне аднachасова задумаць і яшчэ адну справу: аб'явіць спаборніцтва (конкурс) на лепшыя вершы для гэтай кнігі, у якім могуць удзельнічаць і пачынаючыя паэты, на тэму:

"МАЙМУ РОДУ ПРЫСЬВЯЧАЮ".

У іх павінен прысутнічаць дух удзячнасці не толькі маёнтку ў Савічах і тым мясцінам, але і гістарычным мясцінам ўсёй Беларусі, нашай спадчыне і гісторыі, асабліва дзе ты жывеш. Конкурс будзе працягвацца да 1 красавіка бягучага года.

З духоўнай радасцю і пачуццём глыбокай адказнасці будзе прапанавацца Вашай увазе гэтая кніга. Яе стваральнікі не адна, не дзьве асобы, а вельмі многія сыны і дочкі нашай цудоўнай Бацькаўшчыны. Памятайце, што не толькі прырода робіць прыгожую тую ці іншую краіну, але таксама і людзі, якія жывуць у ёй. Ты дарагі Брат і дарагая Сястра, сваім жыццём, паводзінамі ўзвялічваеш сваю краіну і яе прыгажосьць, ці...?

Памяці і ўдзячнасці продкам нашым!

Дзецям і ўнукам для прыкладу, а роду майму, які я прадстаўляю і дзякуючы якому жыву ў пашану.

Дзейнасцю маёй, якая аб'ядноўвае мінулае і будучыню майго роду і пакаленняў падобна звенчаку ланцужка – прысвячаецца гэта кніга (... і Твой верш дарагі Брат і дарагая Сястра.)

*Пробашч касцёла Сьв.Сымона і Сьв. Алены*
*ксёндз-магістр Уладыслаў Завальнюк.*

## Праваслаўнае Брацтва маладых беларусаў

У апошнія часы ў Беларусі адраджаецца традыцыя праваслаўных брацтваў, якія існавалі ў ВКЛ ( на тэрыторыі сучасных Беларусі і Украіны ) у XVI – XVII ст. Вось ужо больш за паўгады пры Менскім Свята-Петра-Паўлаўскім саборы разам з ужо добра вядомым сваёй дзейнасцю "дарослым" Брацтвам Трох Віленскіх Пакутнікаў існуе і актыўна дзейнічае маладзёвае Праваслаўнае Брацтва імя Дабравернага князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага.

У канцы снежня гэтае Брацтва правяло вечарыну, прысвечаную нашай славутай паэтцы Ларысе Геніюш. У ёй прынялі ўдзел мастацкі кіраўнік і актрыса тэатра аднаго акцёра "Зьніч" Галіна Дзягілева, археолаг і пісьменнік Міхась Чарняўскі, галоўны рэдактар часопіса "Бярозка", пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Прысутнічалі таксама настаяцель Свята-Петра-Паўлаўскага сабора, апякун Брацтва імя К.Астрожскага айцец Георгій Латушка і старэйшы куратар Брацтва магістар філасофіі Юрась Залоска. Быў паказаны спектакаль "Белы сон", створаны паводле вершаў Ларысы Геніюш і кнігі яе ўспамінаў "Споведзь", які, дзякуючы сіле мастацкага слова паэткі і акцёрскаму майстэрству спадарыні Дзягілевай, глыбока ўразіў і літаральна заваражыў гледачоў. Пасьля спектакля Міхась Чарняўскі і Уладзімір Ягоўдзік падзяліліся сваімі ўспамінамі пра "пані Ларысу". А напрыканцы сябры Брацтва запрасілі ўсіх прысутных на сяброўскую гарбату. Вечарына атрымалася настолькі ўдалай, цёплай, шчырай і кранальнай, што некаторыя з яе ўдзельнікаў не змаглі стрымаць слёз.

Усцешанае першай спробай, Брацтва мяркуе і надалей арганізоўваць вечарыны, прысвечаныя выбітным беларускім дзеячам, якія для маладых беларусаў могуць служыць прыкладам шчырае Веры і Любові да Бацькаўшчыны, адданага служэння Богу і свайму народу. Але гэтым дзейнасць Брацтва далёка не абмяжоўваецца. Яно праце з дзецьмі-інвалідамі, арганізоўвае лекцыі на рэлігійныя і гістарычна-культурніцкія тэмы, вандроўкі і выязныя семінары, падтрымлівае сувязі з такімі ж брацтвамі ў Польшчы і іншых краінах, рыхтуе да друку сваю газэту ды мае шмат якія іншыя праекты. Прычым сярод трох асноўных правілаў для сяброў Брацтва першае – шанаваць нашу беларускую мову, культуру, гісторыю. Такім чынам, каго зацікавіла дзейнасць Брацтва праваслаўнай моладзі імя князя Канстанціна Астрожскага, каго хвалююць рэлігійныя і беларускія моўныя, культурныя, гістарычныя пытанні, хто мае нейкія праекты, датычныя гэтых пытанняў, або проста хоча знайсці новых сяброў, што падзяляюць яго перакананні, вас чакаюць штосераду а 19-й гадзіне у будынку нядзельнай школы (у двары Свята-Петра-Паўлаўскага сабора),пакой 17; адрас: вул. Ракаўская, 4 (станцыя метро "Няміга").

*Валерыя Чарномская.*

## *А ў нас – па-беларуску*

Сп. Ігар Землячкоў ("Наша слова" № 4 ад 26.01.) абураецца тым, што ў кафедральным касцёле ў Віцебску ксёндз вёў службу па-расейску.

А на маю думку, абурацца не варта. У касцёле Беларусі, наколькі я ведаю, есць тэксты св. Імшы і на польскай, і на беларускай, і, пэўна, і на расейскай. Бачыў я ў католікаў і малітоўнікі "Св. Імша" з тэкстам адразу на трох (польскай, беларускай і расейскай мовах). І ксяндзы, пэўна, правяць св. Імшу на той мове, на якой хочуць іх прыхаджане. Чаго, дарэчы, няма ў праваслаўных цэрквах.

У віцебскім касцёле, пэўна, былі і расейцы і роднай мовай якіх, зразумела, з'яўляецца расейская. А можа і нашы "рюскія", якія лічаць, што на "калхознай" мове маліцца непрыстойна.

У нас, у Докшыцах, інакш. Ксёндз Ян, паляк па нацыянальнасці, за некалькі гадоў пражывання ў Докшыцах, не толькі пабудаваў касцёл, але і вывучыў і беларускую і расейскую мову. І размаўляе ён з людзьмі на той мове, на якой да яго звяртаюцца. І св. Імшу ён правіць і па беларуску, і па-польску. Ён лічыць, што людзі св. Імшу павінны разумець, што малітва гэта – гутарка з Богам. А самая шчырая гутарка можа быць толькі на той мове, якая для чалавека з'яўляецца роднай.

Ён, заўважыўшы, што на ранішнюю імшу ў 9 гадзін, якую ён вёў на беларускай мове, ходзяць пераважна людзі старэйшага ўзросту, якія з маленства маліліся па-польску, а на імшу па-польску ходзіць пераважна моладзь, і дзеці, якія польскай мовы не ведаюць. І ён змяніў парадак вядзення імшы. Для моладзі ён стаў правіць яе па-беларуску. І людзі зразумелі яго. Бо гэта – сапраўдны святар, які разумее людзей.

*І.Фурсовіч, Докшыцы.*



# ЗАЯВА
## Цэнтральнай рады БСДГ

Ужо восем месяцаў Кансультацыйны Савет апазіцыйных партый, падтрыманы Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь XIII склікання, пры пасрэдніцтве Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ спрабуе наладзіць дыялог з уладай ва ўзгодненым з ёй фармаце. Пасля забяспячэння свабоднага доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ, мэтай перамоваў мусіла стаць рашэнне наступных пытанняў: перагляд паўнамоцтваў парламента для забяспячэння падзялення ўлады і перагляд выбарчага заканадаўства для забяспячэння свабодных, дэмакратычных выбараў. У канцы мінулага года ўдалося ўзгадніць умовы доступу апазіцыі да СМІ, але яны не выконваюцца.

Хаця апазіцыя патрабавала толькі тое, што гарантавана кожнаму грамадзяніну Канстытуцыяй, а менавіта доступу да СМІ і права выказваць іншы пункт гледжання, чым афіцыйны, на бягучыя падзеі. Аднак не страх перад апазіцыяй, а перад вамі, мільёнамі тых, хто галасаваў на мінулых прэзідэнцкіх выбарах за А. Лукашэнку і хто фактычна быў ім з самага пачатку падмануты, і штурхае яго на парушэнне Канстытуцыі.

Зараз рэжым абвясціў з 1 сакавіка пачатак так званага шырокага грамадскага дыялогу, але ўжо з новымі ўдзельнікамі, якія прызнаюць Канстытуцыю 1996 года і заканадаўства, распрацаванае нікім не прызнанай Палатай прадстаўнікоў. Гэтая Канстытуцыя дазволіла створаным у адпаведнасці з ёй органам рэжыму, на чале з А. Лукашэнкам: прывесці да галечы большую частку насельніцтва; пад выглядам працэсу інтэграцыі пачаць ліквідацыю незалежнасці Беларусі; ліквідаваць кантроль парламента над урадам, які прывёў да росту цэн; бескантрольна распараджацца народным багаццем, з-за чаго многія прадпрыемствы трапілі пад кантроль расейскіх алігархаў; беспакарана парушаць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян.

За ўсёй шуміхай, што распачаў рэжым вакол чарговага палітычнага спектакля, трэба бачыць тое, што яму патрэбныя не перамовы, якія маглі б прывесці да дэмакратычных выбараў, а іх імітацыя, каб пусціць пыл у вочы народу Беларусі і міжнароднай супольнасці.

У цэлым падтрымліваючы пазіцыю Кансультацыйнага Савета апазіцыйных партый, выкладзеную ім у заявах ад 22 і 29 лютага 2000 года, мы падкрэсліваем:

- перад пачаткам перамоваў рэжым абавязаны дапусціць апазіцыю да дзяржаўных СМІ;
- галоўнай мэтай перамоваў павінна быць захаванне суверэнітэта Беларусі;
- перамовы могуць стаць першым крокам на шляху вяртання да Канстытуцыі 1994 года, аднаўлення канстытуцыйнага ладу і дэмакратычных нормаў жыцця;
- перамовы павінны прывесці да вяртання парламенту статусу адзінага заканадаўчага органа, права кантроля за працай ураду і выкарыстання бюджэта;
- перамовы павінны спрыяць з'яўленню выбарчага заканадаўства, якое забяспечыць праведзенне свабодных, дэмакратычных выбараў;
- улічваючы нежаданне пануючага на Беларусі рэжыму кіравацца нормамі дэмакратычнага грамадства, любыя перамовы з ім павінны праходзіць пад няспынным кантролем міжнародных арганізацый;
- перамовы павінны спрыяць наданню беларускай мове рэальнага статуса дзяржаўнай.

*Намеснік старшыні Цэнтральнай рады БСДГ*
*А.Астапенка.*

# Ахвяраванні на ТБМ

**Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку ўдзельнікам вечарыны ў гонар Францішка Багушэвіча за дапамогу, аказаную ТБМ. Падчас вечарыны на дапамогу ТБМ і на выданне газеты "Наша слова" было сабрана 7 854 новыя рублі.**

**Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку ўдзельнікам мітынгу 25 сакавіка за дапамогу, аказаную ТБМ. Падчас мітынгу на дапамогу ТБМ і на выданне газеты "Наша слова" было сабрана 61 487 новых рублёў і 2 долары ЗША.**

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць дзейнасць Таварыства. Сёння ТБМ праводзіць адно масавае мерапрыемства за другім. Усе яны патрабуюць вялікіх выдаткаў. Сакратарыят просіць дасылаць ахвяраванні на адрас: 220005, г. Менск, Румянцава, 13, або пералічаць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11,-213-43-52.

**4 красавіка на Беларускім тэлебачанні будзе паўторана передача Уладзіміра Содаля пра дзейнасць ТБМ. Дакладны час сачыце па праграмах.**

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго актора**
**9.04.2000 г. ў 19.00**
**у Чырвоным касцёле**
**прадстаўляе спектакль самадзейнага тэатра "Майдан"**
**"Галасы Чарнобыля. Хроніка бяды."**

# Валанцёрская акцыя

23 лютага адбылася валанцёрская акцыя. Кіраўнік валанцёраў Сяржук Шупенька разам з братам Міхасём насупраць уваходу ў Вайсковую акадэмію раздавалі каляндары з выявай беларускіх Вайскоўцаў узору 1994 г. на фоне бел-чырвона-белага сцягу. На працягу гадзіны было раздадзена прыкладна 60 каляндарыкаў.

Вайскоўцы ў сваёй пераважнасці рэагавалі добразычліва, недзе кожны трэці казаў: "Дзякуй".

Трэба адзначыць, што ТБМу важна працаваць з вайскоўцамі. Войска раней з'яўлялася, як дарэчы і цяпер, асноўным бастыёнам русіфікацыі.

Вышэйзгаданы прыклад паказвае, што для гэтага трэба няшмат, у сядзібе Таварыства можна атрымаць для раздачы па 50 каляндарыкаў на структуру.

Нармальна было б, каб структуры на месцах самастойна праводзілі падобныя акцыі. Прыкладам, друк улётак за беларускую мову, раздачу іх ці расклейку.

Сродкі на друк некалькіх соцен улётак знайсці можна, было б жаданне.

*А. Гурыновіч.*

## У пятніцу 31 сакавіка 2000 г.

У тэатральнай зале Чырвонага касцёла
(Менск, плошча Незалежнасці)

## у 18.00

адбудзецца сустрэча з паэтэсай
**Данутай Бічэль-Загнетавай**
Ласкава запрашаем!
Кніжны клуб ТБМ.

## Свята Святога Патрыка

У парку імя Горкага ў Менску прайшло свята Святога Патрыка. Гэтае нацыянальнае свята Ірландыі ў другі раз праводзіць у беларускай сталіцы таварыства "Беларусь - Ірландыя". Свята знаёміць беларусаў з традыцыямі жыхароў Ірландыі.




**На здымку: у час свята. Фота Мікалая Пятрова, БелТА.**

# "Псалтыр з Часаслоўцам" – 430 гадоў

У 1570 годзе ў Заблудаўскай друкарні Іван Федаровіч (Фёдараў) надрукаваў "Псалтыр з Часаслоўцам".

Беларускія асветнікі-першадрукары Пётр Мсціславец і Іван Федаровіч распачалі на радзіме кнігавыдавецкую дзейнасць напачатку 1569 года. Праца вялася ў Маёнтку вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага, старасты гарадзенскага і магілёўскага Рыгора Хадкевіча. Да гэтага яны выдалі ў 1564 годзе ў Маскве першую рускую друкаваную кнігу, якая называлася "Апостал". Усё друкарскае абсталяванне нашыя землякі прывезлі ў Маскоўскую дзяржаву з Вялікага княства. Маскавіты, нягледзячы на тое, што гэтыя людзі адкрылі новую старонку гісторыі культуры іх краю, выказалі характэрную для іх падзяку. Як баяры, так і духавенства варажнеча паставіліся да асветнікаў і кніг ды палічылі тое за "пашырэнне ерасі". Ужо праз два гады пасля пачатку працы, раз'юшаны натоўп ушчэнт нішчыць друкарню ды прагне крыві яе гаспадароў.

Іван Федаровіч і Пётр Мсціславец паспешна пакідаюць Маскву і вяртаюцца на Радзіму. І вось тут вялікі гетман княства Рыгор Хадкевіч запрашае асветнікаў у свой маёнтак Заблудаў Гародзенскага павета (зараз – Беластоцкага ваяводства, Польшча). Ён даўно хацеў адкрыць уласную друкарню, а тут, як кажуць, надарыўся такі выпадак. У тым жа 1569 годзе ў Заблудаве была выдадзена кніга "Евангелле вучыцельнае". Гэта быў зборнік размоў і павучэнняў з тлумачэннямі біблейскіх тэкстаў. Гэтая кніга пазней неадназова перавыдавалася ў Вялікім княстве. Па звестках некаторых даследчыкаў Федаровіч і Мсціславец нават прапаноўвалі перакласці твор на беларускую мову, але задуме не было наканавана здзейсніцца. У 1569 годзе Мсціславец пераязджае ў Вільню. Праз год Федаровіч выдае вышэйзгаданы "Псалтыр з Часаслоўцам". Праз некаторы час Хадкевіч вырашае спыніць выдавецкую дзейнасць і ў 1573 годзе Федаровіч пераязджае ў Львоў і засноўвае першую на Украіне друкарню.

Пётр Мсціславец у Вільні з дапамогаю братоў Мамонічаў засноўвае друкарню, выдае некалькі кнігаў і вяртае ў кнігадрукаванне кірыліцу.

Федаровіч у гэты час друкуе ў Львове "Апостал" і "Азбуку". Гэта былі першыя друкаваныя падручнікі для навучэння грамаце. Потым ён пераязджае ў мястэчка Астрог, што на Ровеншчыне, да князя Канстанціна Астрожскага, сына знакамітага гетмана. Выдае яшчэ адну "Азбуку" (1578 год), "Псалтыр" і "Новы Запавет" (1580г). Тут жа ў Астрозе Федаровіч друкуе "Хранолагію" Андрэя Рымшы. Гэта першы ўсходнеславянскі календар ды першы асобна выдадзены твор беларускай паэзіі. Захаваўся адзіны яго экземпляр і той знаходзіцца ў Маскве. У гэтым жа 1581 годзе свет пабачыла славутая Астрожская Біблія.

Іван Федаровіч памёр у 1583 годзе ў Львове. На яго надмагільнай пліце выбіты надпіс "Друкарь книг пред тым невиданных".

Тое што выдадзена Іванам Федаровічам і Пятром Мсціслаўцам чыніць гонар не толькі агульнаславянскай культуры, але і ўпісана яскравай старонкаю ў культуру агульнаеўрапейскую

*Язэп Палубятка.*

# Давайце памятаць

31 сакавіка 200 гадоў таму назад нарадзіўся Восіп Іванавіч Сянкоўскі. Яго жыццёвы шлях можна ахарактарызаваць так: пісьменнік, мовазнаўца, журналіст, падарожнік. Ён пабачыў свет у маёнтку Антанпаль ля Вільні ў сям'і шляхціца. Сталую адукацыю пачаў набываць у Мінску, пасля працягваў навучанне ў Вільні. Пад час вучобы захапіўся гісторыяй і арыенталістыкай. Зрабіў шэраг вандровак, наведаў Турцыю, Егіпет, Сірыю. Восіп Іванавіч ведаў мноства моў: апроч рускай, беларускай ды польскай валодаў арабскай, турэцкай, нямецкай, французскай, італьянскай, грэчаскай ды іншымі, вывучаў таксама японскую і кітайскую. У дваццацідвухгадовым узросце Сянкоўскі кіруе кафедрай арабскай і турэцкай славеснасці Пецярбургскага універсітэта. З пачаткам 1830 гадоў пачынаецца яго новае захапленне: журналістыка. Восіп Сянкоўскі друкаваўся ў часопісах "Паўночны архіў", "Паўночная пчала" і іншых тагачасных выданнях паўночнай сталіцы Расейскай імперыі. З 1834 года па 185 выдаваў "Бібліятэку для чытання". Яна была вельмі папулярнай у свой час. Напачатку ў ёй супрацоўнічалі А.Пушкін, В.Жукоўскі, іншыя славутыя паэты і пісьменнікі, але хутка адышлі ад гэтага выдання. Фактычна Сянкоўскі аб'яднаўся ў сваіх поглядах з Ф. Булгарыным і М. Грэчам у нападках на прагрэсіўную літаратуру.

Іх апаненты таксама ў доўгу не заставаліся і непрымірыма крытыкавалі гэты "часопісны трыумірат". Па сваёй натуры Сянкоўскі быў скептык і нігіліст. У сваіх артыкулах нават нападаў на французскую літаратуру ды абвінавачваў яе ў амаральнасці. Некаторыя крытыкі адзначаюць яго кансерватызм ды супрацьстаянне ўсяму перадавому.

У 1847 годзе Восіп Сянкоўскі ідзе ў адстаўку, але яшчэ некаторы час працягвае займацца літаратурнай дзейнасцю.

Пакінуў значны след у арыенталістыцы: яго нарысы пра Егіпет, Малую Азію, паэзію і мову насельнікаў Аравіі і сёння маюць пазнавальнае значэнне. Акрамя іншага наш зямляк прымаў самы непасрэдны ўдзел у выданні "Энцыклапедычнага лексікона", напісаў для яго шмат розных артыкулаў. Сянкоўскі вызначаўся яшчэ тым, што меў безліч псеўданімаў. Самы славуты з іх быў – Барон Брамбеус. Як успамінала яго жонка, Брамбеусам Восіп Іванавіч называў свайго лакея, які зачытваўся кнігай пра іспанскага караля Брамбеўса. Пад канец жыцця Сянкоўскі адышоў ад літаратуры, стаў займацца музыкай, фатаграфіяй, астралогіяй.

Памёр у 1858 годзе. Пасля смерці ў Пецярбургу ў 1858 – 1959 гадах выйшаў 9-цітомны збор яго твораў.

*Язэп Палубятка.*

